# ЗВЯЗДА

6 снежня 1996 г. пятніца, № 283 (23086)

● выдаецца са жніўня 1917 г. ● БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА ● цана 1000 рублёў


*ХОДЗЯЦЬ ЧУТКІ, ШТО...*

## ...ПАВЫСЯЦЦА ТАРЫФЫ НА ЖЫЛЛЁВА-КАМУНАЛЬНЫЯ ПАСЛУГІ

Усе, напэўна, памятаюць, калі вясной гэтага года напярэдадні заканчэння ацяпляльнага сезона Камітэт цэн Міністэрства эканомікі па ініцыятыве Мінжылкамгаса і канцэрна «Белпаліўгаз» звярнуўся ў Кабінет Міністраў з прапановай павысіць дзеючыя тарыфы на жыллёва-камунальныя паслугі ў сярэднім на 50 працэнтаў. Аднак гэта прапанова не была падтрымана Міністэрствам сацыяльнай абароны і Федэрацыяй прафсаюзаў Беларусі.

Але ўжо сёння, пасля аб'яўлення аб павышэнні з новага года мінімальнай заработнай платы, у рэдакцыю ад людзей проста пасыпаліся званкі з адным пытаннем: ці не падымуць значна ў Мінжылкамгасе ў сувязі з гэтым тарыфы на жыллёвыя паслугі, і калі будуць такія змяненні, то калі — у наступным годзе ці ўжо ў гэтым? Галоўны спецыяліст рэгулявання рыначных адносінаў эканамічнага ўпраўлення апарату Кабінета Міністраў Беларусі Вячаслаў Казак запэўніў, што, згодна з указам Прэзідэнта краіны № 345 ад 30 жніўня 1996 года, плата насельніцтва за карыстанне жылымі памяшканнямі і жыллёва-камунальныя паслугі не будуць перавышаць 50 працэнтаў затрат жыллёва-камунальных прадпрыемстваў па аказанню гэтых паслуг. Акрамя таго, да канца года не зменяцца цэны на хлеб масавых гатункаў, малако і кісламалочныя прадукты, дзіцячае харчаванне, тавары для дзяцей, а таксама камбікорм для продажу насельніцтву.

У Камітэце цэн нам таксама адказалі, што да канца гэтага года тарыфы на жыллёва-камунальныя паслугі павышацца не будуць. Паводле даных спецыялістаў гэтага ведамства, гэтыя тарыфы не мяняліся яшчэ з ліпеня 1995 года. Праводзілася толькі іх індэксацыя. Усяго за гэты час плата за жыллё павялічылася ў абсалютных лічбах у сувязі з індэксацыяй усяго на 19,6 працэнта. Змянення тарыфнай палітыкі па жыллю хутчэй за ўсё трэба чакаць у новым годзе. Цяпер у Камітэце цэн знаходзіцца каля 50 варыянтаў і прапаноў па павелічэнню гэтых тарыфаў. Насельніцтва ж плаціць сёння менш за 50 працэнтаў усіх затрат камунальнікаў, каля 30 працэнтаў аплачваюць прамысловыя прадпрыемствы, а астатняя частка сродкаў бярэцца з бюджэту. У перспектыве да 2000 года існуе мноства розных варыянтаў па ліквідацыі перакрыжаванага субсідзіравання, каб затраты насельніцтва не кладліся на плечы прамысловасці; па ліквідацыі бюджэтнай датацыі і іншых. Аднак якімі тэмпамі будуць вырашацца гэтыя пытанні, залежыць ад многіх фактараў: і ад узроўню мінімальнай заработнай платы, і ад узроўню пенсій і даходаў людзей. Скрупулёзна пралічваюцца ўсе варыянты: наколькі можна павысіць тарыфы на жыллё і як зможа насельніцтва рэальна аплаціць затраты жыллёва-камунальных структур.

Больш дакладную інфармацыю па змяненню тарыфаў Камітэт цэн паабяцаў даць рэдакцыі ўжо да канца снежня, а пакуль з поўнай упэўненасцю можна сказаць толькі аб тым, што да навагодніх святаў плаціць за жыллё мы будзем па ранейшых расцэнках.

**Сяргей КУРКАЧ.**



А жонкай буду яшчэ лепшай!

Фота Мікалая АМЕЛЬЧАНКІ.

# РОЗГАЛАС

*ЦЭНЫ*

## КАЛІ АБ'ЯВЯЦЬ НОВЫЯ ЦЭНЫ НА ПАСЛУГІ ПРЫГАРАДНАГА І МІЖГАРОДНЯГА АЎТАТРАНСПАРТУ?

**Прайшло зусім няшмат часу з таго моманту, калі было аб'яўлена аб павелічэнні з пачатку будучага года памеру мінімальнай заработнай платы, як у шэрагу міністэрстваў і ведамстваў «закіпела» работа, накіраваная на змяненне цэн на тавары, кошту паслуг і г. д. — словам, усяго таго, што непарыўна звязана з «мінімалкай».**

Як стала вядома карэспандэнту «Звязды» з неафіцыяльных крыніц, зараз разглядаецца пытанне аб увядзенні новых тарыфаў на паслугі прыгараднага і міжгародняга пасажырскага транспарту. Прычым, у адрозненне ад папярэдніх павелічэнняў, цяперашняе, хутчэй за ўсё, будзе мець адну асаблівасць: прыгарадныя і міжгароднія тарыфы будуць аднолькавымі па ўзроўню. Па тэхнічных параметрах — выдатках на адзінку транспартнай работы — яны практычна не адрозніваюцца, але ў пасажыраў шмат нараканняў. Скажам, чалавек едзе на адлегласць 50 кіламетраў і плаціць суму як за прыгарадныя перавозкі, а другі, праехаўшы на кіламетр больш, выкладае за білет грошы ўжо па міжгародніх тарыфах, хаця аўтобус ішоў у абодвух выпадках практычна ў аднолькавых тэхнічных умовах (расход паліва, стан дарогі і інш.). Дарэчы, крыху раней так і было, але потым тарыфы пачалі адрозніваоца. Новаўвядзеннем будзе і тое, што новы кошт паслуг на прыгарадныя і міжгароднія перавозкі будзе ўведзены з пэўнай даты аднолькавы для ўсіх рэгіёнаў.

Што датычыцца прычын увядзення новых тарыфаў, думаецца, яны зразумелыя. Транспартнікі практычна выкарысталі ўжо ўсе бюджэтныя сродкі, выдзеленыя на год, хаця снежань — апошні месяц — яшчэ толькі ў самым пачатку. Дарэчы, сума бюджэтных датацый на транспарт змяншаецца з году ў год. У наступным, напрыклад, яна складзе толькі 10 працэнтаў ад патрэб, астатнія 90 працэнтаў транспартнікам прыйдзецца здабываць самім.

Што датычыцца тэрмінаў увядзення новых цэн на паслугі прыгараднага і міжгародняга аўтатранспарту і дакладных лічбаў — яны пакуль застаюцца тайнай. Але, трэба меркаваць, мы ўжо ў бліжэйшы час даведаемся аб іх...

**Сяргей РАСОЛЬКА.**

*БАНКІ*

## У РЭСПУБЛІЦЫ ШЭСЦЬ БАНКАЎ «ХВОРЫЯ» НА СТАТУТНЫ ФОНД

**Усе добра памятаюць той час, калі галаўны банк рэспублікі, які ў адносінах да камерцыйных банкаў заняў больш жорсткую пазіцыю, запатрабаваў ад апошніх давядзення статутнага фонду да сумы, эквівалентнай 2 мільёнам ЭКЮ.**

Яшчэ сем месяцаў назад банкаў, якія справіліся з гэтым патрабаваннем, у рэспубліцы налічвалася 19. Аднак у сённяшніх умовах, калі курс беларускага рубля ў параўнанні з красавіком значна ўпаў, колькасць банкаў, якія мелі статутны фонд у 2 мільёны ЭКЮ, таксама зменшылася. Сёння іх налічваецца толькі 10. Асноўная па колькасці група банкаў (17) мае статутны фонд ад 1 да 2 мільёнаў ЭКЮ, а ў шасці банкаў ён яшчэ больш сціплы — менш 1 мільёна ЭКЮ. Дарэчы, менавіта ўлічваючы адсутнасць рэальнай магчымасці нарошчвання статутнага фонду, акцыянерамі АКБ «Аб'яднаны капітал» прынята рашэнне аб самаліквідацыі, а па іншых разглядаецца пытанне аб рэарганізацыі.

Нам падаецца цікавай і інфармацыя, якая днямі была агучана, што датычыцца банкаў, якія не дацягнулі да мяжы ў 1 мільён ЭКЮ. Такіх, паўторымся, зараз шэсць. Дык вось, ім прапанавана разгледзець пытанне аб рэарганізацыі або ліквідацыі, таму што далейшае іх функцыянаванне падаецца бесперспектыўным. На жаль, назваць банкі мы не можам, паколькі, прадбачачы ажыятажную сітуацыю вакол іх, афіцыяльныя асобы адмаўляюцца ад канкрэтыкі. Адпраўлены, між іншым, Нацыянальным банкам прадпісанні і іншым банкам аб неабходнасці выканання патрабаванняў аб нарошчванні статутнага фонду да 2 мільёнаў ЭКЮ або спыненні дзейнасці. Аднак тут, хутчэй за ўсё, адыгрывае ролю той фактар, што галаўны банк выступае ў цяперашняй сітуацыі за ўзбуйненне банкаў як за адзін з найбольш прымальных варыянтаў вырашэння банкаўскай праблемы. Што, дарэчы, не адмаўляюць і спецыялісты апошняга, якія «за» канкурэнтаздольныя і мабільныя банкаўскія структуры.

А пакуль у рэспубліцы налічваецца 38 камерцыйных банкаў, і актывы банкаўскай сістэмы выраслі ў параўнанні з 1 ліпеня гэтага года на 34,4 працэнта і склалі на 1 лістапада 75,1 трыльёна рублёў. Фактычна ж памер статутнага капіталу па сістэме банкаў на 1 лістапада дасягнуў 1387,1 мільярда рублёў, або 70 мільёнаў ЭКЮ. І, што немалаважна, скарацілася колькасць стратных фінансавых устаноў на 1 лістапада — зараз толькі 6 стратных банкаў (на 1 красавіка сёлетняга года іх было 14). У цэлым жа па выніках работы за 10 месяцаў банкі атрымалі прыбытак у суме 447,5 мільярда рублёў.

**Ігар ШЧУЧЭНКА.**

## ФАЛЬШЫВЫ ПРАЯЗНЫ: НАІЎНАСЦЬ КАШТУЕ ГРОШАЙ

**Увядзенне ў сталічным транспарце пластыкавых праязных спадабалася далёка не кожнаму. Але ўсё-такі знайшліся людзі, якія нават гэты факт павярнулі на карысць сабе. Уся справа ў тым, што пасля ўвядзення ў абарачэнне пластыкавых праязных паралельнае хаджэнне аналагічных ім папяровых праязных білетаў было спынена.**

Так, вось ужо некалькі месяцаў, як з кіёскаў «Саюздруку» «знік» з продажу самы распаўсюджаны праязны на аўтобус-тралейбус-метро, выкананы на паперы. Усё правільна: цяпер такі праязны можна набыць толькі ў касах метрапалітэна, таму што ён уяўляе сабой магнітную картку, якую трэба правяраць перад продажам. Але, у сувязі з тым, што кіёскаў «Саюздруку» ў сталіцы шмат, да таго ж рэалізацыяй праязных білетаў займаюцца таксама і прыватныя распаўсюджвальнікі, пракантраляваць іх даволі складана. Вось таму час ад часу ў сталіцы ўсплываюць на паверхню несапраўдныя папяровыя праязныя, за якія наіўныя грамадзяне выкладваюць грошы. Такім праязным білетам можна карыстацца цэлы месяц і не падазраваць, што ездзіш па фальшываму дакументу, пакуль не трапіш на вочы пільнаму кантралёру. Так, днямі ў сталічным метрапалітэне быў затрыманы мужчына з такім вось папяровым «праязным». Месца яго набыцця было хутка ўстаноўлена — сталічны кіёск «Саюздруку». Яго «гаспадыня» на сённяшні дзень ужо звольнена з працы. Цяпер вядзецца следства і ўстанаўліваецца друкарня, дзе была аддрукавана партыя фальшывак.

На жаль, фальшывы праязны прадалі не аднаму мінчаніну, так што, цалкам магчыма, расчараванне пры сустрэчы з кантралёрам у астатніх яшчэ наперадзе. Безумоўна, магчымасць набыць папяровы праязны замест магнітнай карткі, на якасць якой маецца нямала скаргаў, даволі спакуслівая, але не трэба забываць, што за наіўнасць давядзецца расплачвацца ўласнымі грашыма...

**Надзея НІКАЛАЕВА.**

### *Удзельнікам Міжнароднай навуковай канферэнцыі, прысвечанай 5-годдзю ўтварэння СНД*

Дарагія сябры!

Я шчыра рад вітаць вас на беларускай зямлі.

Думаю, што выбар месца правядзення вашай канферэнцыі вызначаны не толькі тым, што Мінск — сталіца СНД. Галоўнае — беларускі народ і яго кіраўнікі ў поўнай меры ўсведамляюць жыццёвую неабходнасць глыбокай і ўсебаковай інтэграцыі нашых краін і народаў і актыўна працуюць у гэтым напрамку.

Разрыў эканамічных і культурных сувязей паміж рэспублікамі былога Савецкага Саюза не прынёс ім міру і працвітання. Вопыт паказаў, што толькі сумеснымі намаганнямі мы можам пераадолець усе складанасці пераходнага перыяду, захаваць і развіць эканамічны і культурны патэнцыял, набыты пакаленнямі нашых людзей.

У Садружнасці Незалежных Дзяржаў ужо ёсць несумненныя поспехі. Аднак трэба яшчэ вельмі многае зрабіць дляператварэння СНД у высокаэфектыўную міжнародную арганізацыю. Упэўнены, ваша канферэнцыя стане важным крокам у гэтым напрамку.

Са свайго боку запэўніваю вас, што развіццё добрасуседскіх партнёрскіх адносінаў з усімі краінамі — удзельніцамі СНД і ў далейшым застанецца важнейшым напрамкам палітыкі Рэспублікі Беларусь.

**Аляксандр ЛУКАШЭНКА.**

## УКАЗ ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ № 508
## АБ ПЫТАННЯХ, ЗВЯЗАНЫХ З ПРАВЯДЗЕННЕМ ВЫБАРАЎ ДЭПУТАТАЎ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ ТРЫНАЦЦАТАГА СКЛІКАННЯ

У адпаведнасці з часткай першай артыкула 143 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь 1994 года (са змяненнямі і дапаўненнямі) і Законам Рэспублікі Беларусь «Аб спыненні паўнамоцтваў Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь трынаццатага склікання» **пастанаўляю:**

1. Устанавіць, што другі тур галасавання па выбарах дэпутатаў Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь трынаццатага склікання не праводзіцца.

2. Цэнтральнай камісіі Рэспублікі Беларусь па выбарах і правядзенню рэспубліканскіх рэферэндумаў пры рэгістрацыі дэпутатаў Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, выбраных 24 лістапада 1996 г., кіравацца часткай першай артыкула 143 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь 1994 года (са змяненнямі і дапаўненнямі).

3. Гэты Указ уступае ў сілу з дня яго апублікавання.

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А. ЛУКАШЭНКА.**

5 снежня 1996 г., г. Мінск.

## ПАВЕДАМЛЕННЕ ПРЭС-СЛУЖБЫ ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

Некаторыя расійскія сродкі масавай інфармацыі, у прыватнасці тэлебачанне, каменціруючы заяву аб адстаўцы старшыні Канстытуцыйнага суда В. Г. Ціхіні, зноў праявілі тэндэнцыйнасць і суб'ектывізм. У зробленых імі каментарыях пазіцыя В. Г. Ціхіні падаецца вельмі аднабока — як ледзь не галоўнага абаронцы Канстытуцыі і дэмакратыі.

На самай справе грамадскасці нашай краіны добра вядома, што нядаўні так званы «канстытуцыйны крызіс» стаў магчымы толькі з прычыны празмернай палітызаванасці В. Г. Ціхіні і некаторых іншых членаў Канстытуцыйнага суда, якія адкрыта сталі на шлях юрыдычнага абслугоўвання неправамерных дзеянняў асобных кіраўнікоў былога Вярхоўнага Савета трынаццатага склікання.

Прэс-служба Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь паведамляе, што В. Г. Ціхіня сапраўды падаў Прэзідэнту краіны заяву аб адстаўцы, дзе прыводзіць наступную матывацыю: «У сувязі з вынікамі праведзенага 24 лістапада 1996 г. канстытуцыйнага рэферэндуму ў Рэспубліцы Беларусь лічу немагчымым далейшае знаходжанне ў саставе Канстытуцыйнага суда».

Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А. Р. Лукашэнка задаволіў просьбу В. Г. Ціхіні.

## Дэпутаты Дзярждумы на Беларусі

**Учора ў штаб-кватэры СНД у Мінску пачала работу міжнародная канферэнцыя «Праз пяць гадоў. Наступствы распаду СССР і будучыня Садружнасці», у якой бяруць удзел каля 150 прадстаўнікоў з усіх краін—удзельніц СНД. А напярэдадні форуму, раніцай 5 снежня, дэлегацыя дэпутатаў Дзяржаўнай думы Расіі, карыстаючыся магчымасцю, наведала Дом урада, дзе сустрэлася з прадстаўнікамі Нацыянальнага сходу Беларусі. Парламентарыяў прынялі А. Малафееў, У. Канаплёў, В. Кучынскі і некаторыя іншыя дэпутаты Палаты прадстаўнікоў.**

Пасля працяглай гутаркі кіраўнік расійскай дэлегацыі, намеснік Старшыні Дзярждумы Сяргей Бабурын падзяліўся з журналістамі ўражаннямі ад перамоў з беларускімі калегамі. Вядома, яго каментарыі мелі палітычны характар і датычыліся развіцця падзей як у Беларусі, так і ў Расіі, а таксама развіцця двухбаковых адносінаў суверэнных дзяржаў. Перш за ўсё С. Бабурын адзначыў, што з апазіцыйнай часткай Вярхоўнага Савета сустракацца ў яго няма намеру, таму што парламентарыі Расіі прыбылі ў Мінск не для таго, каб вывучаць палітычны спектр нашай краіны. Паводле яго слоў, у Беларусі зараз адбываецца рэканструкцыя палітычнай сістэмы, у выніку якой адбудзецца стабілізацыя грамадскай сітуацыі. Што ж датычыцца ўплыву на расійскую палітыку беларускага Прэзідэнта, то сп. Бабурын заявіў літаральна наступнае: «Мая даўняя мара заключаецца ў тым, каб мы нарэшце прыйшлі да таго моманту, калі будзем выбіраць адзінага прэзідэнта і адзіны парламент. І калі сярод кандыдатаў на высокую пасаду будуць вызначацца дастойныя, то, я ўпэўнены, адной з першых будзе названа кандыдатура Лукашэнкі». Далей ён падкрэсліў, што расійская апазіцыя будзе падтрымліваць тых людзей, якія будуць не гаварыць пра інтэграцыю, а рабіць рэальныя крокі ў накірунку да аб'яднання Расіі і Беларусі. У сваю чаргу Анатоль Малафееў сказаў журналістам, што сустрэчай з расійскімі дэпутатамі поўнасцю задаволены, таму што было пацверджана аднолькавае разуменне многіх праблем, якія турбуюць абедзве краіны.

Аднак сярод дзесяці расійскіх парламентарыяў аказаўся адзін чалавек, які не мог пагадзіцца з такімі выказваннямі і меў сваю думку на гэты конт. Прадстаўнік фракцыі «ЯБЛоко» Аляксей Захараў сказаў, што на сустрэчы з кіраўніцтвам Палаты прадстаўнікоў Беларусі задаў тры пытанні, на якія так і не змог атрымаць канкрэтных адказаў. Гэтыя пытанні датычыліся законнасці і легітымнасці беларускага рэферэндуму і дзіўнай пазіцыі тутэйшых камуністаў, якія па сутнасці выказаліся супраць Саветаў. А. Захараў пацвердзіў ранейшую пазіцыю сваёй фракцыі, якая перакананa, што А. Лукашэнка выкарыстоўвае расійскіх палітыкаў у сваіх мэтах. Да таго ж дэпутат падчас візіту ў Беларусь мае намер не толькі ўдзельнічаць у афіцыяльных мерапрыемствах і сустрэчах, але і асабіста вывучыць палітычную сітуацыю ў Беларусі.

**Юрась ЛЯШКЕВІЧ.**



Von den Wunden, die die Zeit nicht heilt

„Unicef braucht Sie als Verbündete"

Die Kinder werden das Schweigen nicht zulassen

## «ЗВЯЗДОЎСКАЯ» АКЦЫЯ ЗНАХОДЗІЦЬ ПАДТРЫМКУ Ў НЯМЕЦКІХ ЖУРНАЛІСТАЎ

**Акцыя «Выратаванне» па аздараўленню беларускіх дзяцей у замежжы, якую праводзяць БДФ «Дзецям Чарнобыля» і газета «Звязда», атрымала пэўны грамадскі рэзананс, у прыватнасці ў Германіі. Ужо неаднойчы на Беларусь наведваліся журналісты старэйшага нямецкага перыядычнага выдання — «Leipziger Volkszeitung» («Лейпцыгскай народнай газеты»). Былі нямецкія калегі і гасцямі «Звязды».**

Днямі цэлая газетная паласа (з каляровымі здымкамі) «Лейпцыгскай народнай газеты» была прысвечана сітуацыі з чарнобыльскімі захворваннямі на Беларусі, а таксама акцыі «Выратаванне». Журналісты расказалі сваім чытачам пра тое, якую арганізацыйную работу праводзіць беларуская газета.

Некалькі слоў да факта публікацыі матэрыялаў пра Беларусь паслячарнобыльскую ў газеце з Германіі сказаў старшыня БДФ «Дзяцям Чарнобыля» Генадзь Грушавы:

— У нас даўняе сяброўства з нямецкімі газетчыкамі. Яны прывозілі на Беларусь гуманітарную дапамогу, аказвалі значнае матэрыяльнае садзейнічанне ў нашых справах. А галоўнае — яны з'яўляюцца нашымі шчырымі памочнікамі ў фарміраванні здаровай грамадскай думкі пра Беларусь там, у Германіі.

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**




## НА САММІЦЕ Ў ЛІСАБОНЕ БЕЛАРУСЬ ВЫСТУПІЛА СУПРАЦЬ НОВАГА РАСКОЛУ Ў ЕЎРОПЕ

Мадэль бяспекі Еўропы ў XXI стагоддзі — такой была тэма сустрэчы кіраўнікоў дзяржаў і ўрадаў краін — удзельніц арганізацыі па бяспецы і супрацоўніцтву ў Еўропе (АБСЕ). Як паведамлялася ўжо, яна прайшла ў пачатку снежня ў Лісабоне — сталіцы Партугаліі. У самміце ўдзельнічалі кіраўнікі ўсіх еўрапейскіх краін, а таксама ЗША, Канады, дзяржаў Міжземнаморскага рэгіёна, Японіі і Паўднёвай Карэі. Афіцыяльную дэлегацыю Беларусі ўзначальваў Прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка.

Самміт з высокім узроўнем прадстаўніцтва яго ўдзельнікаў, якія праявілі зацікаўленасць у забеспячэнні міру і стабільнасці на кантыненце, ва ўдасканаленні дзейнасці АБСЕ на парозе трэцяга тысячагоддзя, несумненна, стаў адной з важнейшых палітычных падзей года. На ім абмеркавана прапанаваная Расіяй мадэль бяспекі, якая датычыць удасканалення дзейнасці АБСЕ, неабходнасці стварэння ўласнай прававой базы гэтай аўтарытэтнай арганізацыі. Гэта мадэль прадугледжвае распрацоўку статусу або канвенцыі аб АБСЕ, а таксама наданне юрыдычна абавязковага характару дамоўленасцям, існуючым у рамках АБСЕ. У прыватнасці, у рамках дыскусіі па мадэлі агульнай і ўсёабдымнай бяспекі для Еўропы XXI стагоддзя Расія прапанавала пачаць прававое афармленне сістэмы еўрапейскай бяспекі, якая ўключала б у сябе перакрыжаваныя гарантыі, кадыфікацыю прынцыпаў міратворчасці АБСЕ, распрацоўку сістэмы пагадненняў па раздзяленню функцый паміж усімі міжнароднымі арганізацыямі, якія дзейнічаюць у сферы бяспекі ў Еўропе, з наданнем АБСЕ каардынуючай ролі.

Дэлегацыя Беларусі падтрымала пазіцыю Расіі па пытаннях удасканалення дзейнасці АБСЕ. Як падкрэсліў кіраўнік нашай дзяржавы Аляксандр Лукашэнка, які выступіў у першы дзень работы самміта, сістэма бяспекі Еўропы XXI стагоддзя павінна эфектыўна процістаяць як старым, так і новым пагрозам бяспецы, забяспечваць справядлівы ўлік інтарэсаў усіх дзяржаў кантынента. Мадэль бяспекі, адзначыў беларускі Прэзідэнт, павінна аб'ядноўваць народы, а не ствараць пагрозу новага расколу. На яго думку, сістэма, якая адпавядае гэтым крытэрыям, магла б скласціся на аснове АБСЕ. «Мы лічым, — зазначыў Аляксандр Лукашэнка, — што ўжо сёння АБСЕ магла б узяць на сябе ролю каардынатара еўрапейскіх і еўраатлантычных інстытутаў у справе забеспячэння міру і стабільнасці на кантыненце».

Рабіць жа галоўным звяном сістэмы еўрапейскай бяспекі НАТО вельмі неабачліва, падкрэсліў Прэзідэнт Беларусі, паколькі гэта азначала б раздзяленне краін кантынента на дзве няроўныя і нераўнапраўныя групы: членаў НАТО і дзяржавы, якія не ўваходзяць у гэты блок.

Гаворачы аб заклапочанасці беларускага боку ў сувязі з планамі хуткага расшырэння НАТО на Усход, што можа прывесці да новага расколу Еўропы, Аляксандр Лукашэнка заявіў: Беларусь у гэтым выпадку стане найбольш пацярпеўшай краінай, паколькі па граніцах рэспублікі можа прайсці лінія новага разлому. Сваё імкненне да стабільнасці і бяспекі Беларусь, адзначыў ён, прадэманстравала канкрэтнымі і рэальнымі крокамі. Так, згодна з Дагаворам аб скарачэнні звычайных узбраенняў, наша рэспубліка знішчыла больш танкаў, баявых машын і іншай ваеннай тэхнікі, што дасталася нам у спадчыну ад часоў «халоднай вайны», чым Вялікабрытанія, Францыя і ЗША разам узятыя.

«Беларусь першая добраахвотна і без усякіх умоў і таргоў адмовілася быць уласніцай вялікага ядзернага патэнцыялу, які знаходзіўся на яе тэрыторыі, — сказаў Прэзідэнт. — Мы выступілі з ініцыятывай фарміравання на кантыненце без'ядзернай прасторы і прынялі практычныя меры па рэалізацыі гэтай ідэі: датэрмінова, падкрэсліваю, датэрмінова выканалі свае абавязацельствы па пратаколу, падпісанаму тут, у Лісабоне, у маі 1992 года». Ён таксама паведаміў, што гэтымі днямі завершаны вывад з тэрыторыі Беларусі апошняй ядзернай ракеты.

У той жа час, падкрэсліў Аляксандр Лукашэнка, цяжка назваць адэкватнай пазіцыю, якую занялі ў гэтым пытанні замежныя партнёры. З аднаго боку, яны вітаюць вывад з Беларусі ядзерных ракет, а з другога, — не праяўляюць гатоўнасці ўзяць на сябе абавязацельства не размяшчаць на сваёй тэрыторыі ядзерную зброю.

Удзельнікі лісабонскай сустрэчы праявілі вялікую цікавасць да выступлення беларускага Прэзідэнта. Павышаная ўвага да Беларусі ў немалой ступені была прадыктавана недастатковай інфармаванасцю кіраўнікоў дзяржаў і ўрадаў аб падзеях, якія адбываюцца ў нашай краіне. Тым больш, што цяперашні старшыня АБСЕ Флавіо Коці, які выступіў у пачатку пасяджэння, паспрабаваў звярнуць увагу прысутных на парушэнні, якія быццам бы мелі месца ў ходзе правядзення ў Беларусі ўсенароднага рэферэндуму.

Рэалістычную пазіцыю, накіраваную супраць нагнятання «беларускай» тэмы, заняла дэлегацыя Расіі на чале з Віктарам Чарнамырдзіным, што працверазіла некаторых замежных палітыкаў, якія спрабавалі разыграць гэту карту.

Аргументаванае выступленне Прэзідэнта Беларусі паслужыла адказам на многія пытанні, унесла яснасць наконт таго, дзе праблемы ёсць на самай справе, а дзе яны надуманыя. Кіраўнік дзяржавы, у прыватнасці, заявіў, што праведзены нядаўна рэферэндум адбыўся ў поўнай адпаведнасці з Канстытуцыяй і заканадаўствам краіны. «Думаю, ніхто не мае права назваць нелегітымным дэмакратычнае волевыяўленне ўсяго народа. Больш за 70 працэнтаў грамадзян Беларусі падтрымалі прапанаваныя Прэзідэнтам папраўкі да Канстытуцыі нашай дзяржавы», — сказаў Аляксандр Лукашэнка.


**(Заканчэнне на 2-й стар.)**


## УКАЗ ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ № 509
## АБ КАБІНЕЦЕ МІНІСТРАЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

У сувязі з уступленнем у сілу Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь 1994 года (са змяненнямі і дапаўненнямі) **пастанаўляю:**

1. Устанавіць, што:

1.1. у адпаведнасці з артыкулам 145 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь 1994 года (са змяненнямі і дапаўненнямі) да ўтварэння Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь яго паўнамоцтвы ажыццяўляе Кабінет Міністраў Рэспублікі Беларусь;

1.2. члены Кабінета Міністраў Рэспублікі Беларусь захоўваюць свае паўнамоцтвы да сфарміравання Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь у парадку, прадугледжаным Канстытуцыяй Рэспублікі Беларусь 1994 года (са змяненнямі і дапаўненнямі).

2. Гэты ўказ уступае ў сілу з дня яго апублікавання.

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А. ЛУКАШЭНКА.**

5 снежня 1996 г., г. Мінск.

## УКАЗ ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ № 510
## АБ КАМІТЭЦЕ ДЗЯРЖАЎНАГА КАНТРОЛЮ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

У мэтах выканання артыкула 146 і ў адпаведнасці з артыкуламі 84, 129—131 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь 1994 года (са змяненнямі і дапаўненнямі) **пастанаўляю:**

1. Утварыць Камітэт дзяржаўнага кантролю Рэспублікі Беларусь шляхам пераўтварэння Службы кантролю Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь.

Ліквідаваць Кантрольную палату Рэспублікі Беларусь, перадаўшы яе маёмасць Камітэту дзяржаўнага кантролю Рэспублікі Беларусь у аператыўнае кіраванне.

Ускласці на Камітэт дзяржаўнага кантролю Рэспублікі Беларусь вядзенне спраў, якія раней знаходзіліся ў распараджэнні Кантрольнай палаты Рэспублікі Беларусь і згодна з заканадаўствам аднесены да кампетэнцыі Камітэта дзяржаўнага кантролю.

2. Устанавіць, што да зацвярджэння Палажэння аб Камітэце дзяржаўнага кантролю Рэспублікі Беларусь:

Камітэт дзяржаўнага кантролю Рэспублікі Беларусь ажыццяўляе сваю дзейнасць у адпаведнасці з нормамі заканадаўства аб Службе кантролю Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь і Кантрольнай палаце Рэспублікі Беларусь, калі гэта не супярэчыць Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь;

структура Камітэта дзяржаўнага кантролю Рэспублікі Беларусь павінна адпавядаць структуры Службы кантролю Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, зацверджанай Указам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 24 мая 1996 года № 200;

штатная колькасць і фонд аплаты працы работнікаў Камітэта дзяржаўнага кантролю Рэспублікі Беларусь не павінны перавышаць агульную штатную колькасць і суму фондаў аплаты працы работнікаў Службы кантролю Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь і Кантрольнай палаты Рэспублікі Беларусь.

3. Камітэту дзяржаўнага кантролю Рэспублікі Беларусь:

у месячны тэрмін прадставіць на зацвярджэнне Прэзідэнту Рэспублікі Беларусь Палажэнне аб Камітэце дзяржаўнага кантролю Рэспублікі Беларусь, прадугледзеўшы пры гэтым яго структуру, штатную колькасць і фонд аплаты працы работнікаў;

у двухмесячны тэрмін ва ўстаноўленым парадку забяспечыць перадачу-прыёмку грашовых сродкаў, іншай маёмасці, архіўных і іншых дакументаў Кантрольнай палаты Рэспублікі Беларусь;

вырашыць пытанні працаўладкавання былых работнікаў Кантрольнай палаты Рэспублікі Беларусь, маючы на ўвазе, што названыя работнікі прымаюцца на работу ў асноўным для ўмацавання тэрытарыяльных і функцыянальных органаў Камітэта дзяржаўнага кантролю Рэспублікі Беларусь у парадку пераводу ці падлягаюць звальненню ў сувязі з ліквідацыяй установы.

4. Гэты Указ увесці ў дзеянне з дня яго падпісання, за выключэннем нормаў, якія датычаць правоў работнікаў Кантрольнай палаты Рэспублікі Беларусь, што ўступаюць у сілу з дня апублікавання гэтага Указа.

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А. ЛУКАШЭНКА.**

5 снежня 1996 г., г. Мінск.

*НОВАЕ СТУКАЕЦЦА Ў ДЗВЕРЫ*

# ІМІДЖ «НОВАГА БЕЛАРУСА» ФАРМІРУЮЦЬ ЁН САМ, ГАЛІНОВАЕ МІНІСТЭРСТВА І... ПРЭСА

**Днямі ў «Панараме» адзін сярдзіты сабрат-журналіст «наехаў» на зусім маладое міністэрства прадпрымальніцтва і інвестыцый. У тым сэнсе, што не такая ўжо і патрэбная гэта структура.**

**Дзіўна. У развітых краінах (напрыклад, у Германіі, нават на ўзроўні федэральных зямель), дзе рын准ачныя адносіны ўсталяваліся даўно і далі свой плён, такое міністэрства не лічыцца лішнім едаком. У Беларусі тысячы людзей, якія ўступілі на шлях прадпрымальніцтва, маюць вострую патрэбу ў падтрымцы, мэтанакіраванай дапамозе, заступніцтве. І раптам «не трэба». Нам такая пазіцыя не здалася бясспрэчнай.**

**З гутаркі з міністрам Аляксандрам САЗОНАВЫМ можна зрабіць выснову, што «штаб галіны» жыве паўнакроўным, напружаным жыццём.**



**— Аляксандр Юр'евіч, тлумачачы паварот, які адбыўся апошнім часам да праблем бізнесу, вы параўнальна нядаўна сказалі, што змяніліся не адносіны ўладаў да прадпрымальнікаў, а ўмовы, якія і дыктуюць неабходнасць дзяржаўнага рэгулявання працэсаў. Што вы мелі на ўвазе і якія межы гэтага рэгулявання?**

— Перш за ўсё мелася на ўвазе макраэканамічная стабілізацыя. Прадпрымальніцтва павінна насіць максімальна цывілізаваныя формы, каб падмацоўваць гэту стабілізацыю, а не расхістваць яе. Цяжка ўтрымліваць парадак у дзяржаўным сектары, калі ў суседнім, цесна звязаным з ім прыватным сектары, будуць адбывацца хаатычныя працэсы.

Яшчэ адна акалічнасць. Беларускі бізнес выйшаў з таго дзіцячага стану, калі можна было не звяртаць на яго сур'ёзнай увагі. Ну, гандлююць сабе хлопчыкі і дзяўчынкі ў ларках шакаладкамі, і добра, усе пры справе... Сёння ён дапамагае закрываць цэлыя напрамкі (напрыклад, гандаль, паслугі), у ім заняты тысячы людзей. Жадаючы поспеху гэтым людзям і ўсяму гэтаму сектару, дзяржава і павінна ажыццяўляць функцыі рэгулявання. Такая сусветная практыка. Бізнес зусім не самарэгулюемая сфера, не трэба падманвацца.

Праўда, трэба пазбягаць і крайнасцей. Не кансерватарамі быць і не тормазам на шляху рэформаў, а цвярозымі прагматыкамі. Дзяржава павінна ажыццяўляць сваю рэгулюючую ролю ў асноўным шляхам эканамічнага стымулявання. Механізмы гэтага стымулявання закладзены ў прэзідэнцкім указе аб падтрымцы прадпрымальніцтва. Адзін з асноўных — калі стварэнне новых рабочых месцаў будзе заахвочвацца дыферэнцыраваным падыходам да падаткаабкладання.

**— Неабходнасць такога стымулявання відавочная. Здаецца, яе асабліва не хапае ва ўзаемаадносінах дзяржавы і буйнога бізнесу. Просты прыклад. Як прымусіць беларускія банкі крэдытаваць сферу вытворчасці на нармальных умовах? Гэта ж першаступенная дзяржаўная праблема.**

— Рашэнне можа быць зусім простым. Крэдытуе банк неабходны дзяржаве, грамадству праект — плаціць менш падаткаў. Скажам, банкі вызваляюцца ад падатку на прыбытак, атрыманы ў выніку крэдытавання. Схему можна ўскладніць і ўвесці пэўны паказчык (працэнт) крэдытавання, ад велічыні якога будзе залежаць падатковая льгота.

**— Тады справа за малым. Засталося ўзаконіць гэтую мадэль і выпрабаваць яе на практыцы...**

— Я не хацеў бы спантанна ўрывацца ў «агарод» Мінфіна, гэта больш яго прэрагатыва. Яго і банкаў. Хоць мы будзем самым непасрэдным чынам працаваць над стварэннем механізма актывізацыі ўнутраных інвестыцый. (Сілай жа нікога не прымусіш — ні банкі, ні прадпрымальнікаў, ні насельніцтва, якое мы схільны разглядаць як вельмі сур'ёзнага і доўгатэрміновага інвестара — пры стварэнні адпаведных умоў.) І ў сілу сваёй спецыфікі будзем ажыццяўляць увязку на міжведамасным узроўні. Гэта менавіта наша задача — каардынаваць палітыку дзяржавы ў сферы прадпрымальніцтва і інвестыцый на міжведамасным узроўні. Бачыць праблему, інфармаваць аб ёй урад, прапанаваць узважаныя варыянты рашэння. Пад нашай эгідай ствараюцца рабочыя групы з профільных спецыялістаў для генерыравання свежых ідэй, падрыхтоўкі дакументаў.

**— У чым вы бачыце сваю «звышзадачу» на пачатковы перыяд работы новага міністэрства? Скажам, на першыя паўгода-год?**

— З моманту ўзнікнення прадпрымальніцтва і па сённяшні дзень не зроблена адна вялікая і значная работа: няма доўгатэрміновай цэласнай Канцэпцыі развіцця прадпрымальніцтва. Не проста канцэпцыі як такой, тэорыя пытання дастаткова напрацавана, а нацыянальнай Канцэпцыі, з улікам канкрэтных эканамічных умоў Беларусі, у якой дакладна былі б сфармуляваны прыярытэты.

А гэта перш за ўсё сфера матэрыяльнай вытворчасці і сфера паслуг насельніцтва. Відавочна, што ўнутры гэтых двух напрамкаў таксама існуюць свае ўласныя перавагі, здольныя забяспечыць найбольшую эфектыўнасць для эканомікі ў цэлым і асобных яе галін (напрыклад, вытворчасць экспартаарыентаванай і імпартазамяшчаючай прадукцыі, а таксама прадукцыі, якая раней не выпускалася ў рэспубліцы, і г. д.). Усе яны будуць названы ў праграме развіцця прадпрымальніцтва. Наша міністэрства ў «звязцы» з Мінэканомікі праграму распрацоўвае адначасова з канцэпцыяй.

**— Значная частка камерцыйных структур Беларусі — пасрэдніцкія фірмы. За мяжой такія фірмы адчуваюць сябе паўнацэннымі ўдзельнікамі рынкавых адносінаў. У нас жа за імі замацаваўся імідж спекулянтаў. Як мінімум. Але ці зможа эканоміка абысціся без такога інструмента, як пасрэднік? Якія правілы «цывілізаванай гульні» вы маеце намер устанавіць для гэтых суб'ектаў гаспадарання? Якія патрабаванні дзяржавы да іх?**

— Без пасрэднікаў эканоміцы не абысціся, гэта праўда. Размова можа ісці толькі аб прапорцыях. Каб наш айчынны бізнес не быў наскрозь пасрэдніцкім, спекуляцыйным. Толькі «купі-прадай». Павінна расці колькасць фірмаў. Гэта не азначае, што пасрэднікам штосьці пагражае. Тыя з іх, хто працуе нармальна — хто знайшоў уласную нішу, дапамагае вытворцу дастаўляць яго тавар спажыўцу, плаціць падаткі — павінны працаваць. Але не паразітаваць на целе вытворцы, толькі накручваючы невядома з якой столі ўзяты працэнт пры збыце тавару і такім чынам падрываючы пазіцыі і работнікаў вытворчасці, і пакупнікоў. Вось тыя самыя правілы «цывілізаванай гульні». Яны распісаны ў шматлікіх законах і падзаконных актах. Прававая база ў нашага бізнесу, можа быць, і не вычарпальна поўная, далёкая ад дасканаласці, але не такая ўжо і дрэнная.

**— Ці можна чакаць, што ўжо на 1997 год будзе зацверджана дзяржаўная праграма прадпрымальніцтва?**

— Будзе абавязкова. Мы працуем над ёй, пачынаючы са жніўня. Увязваем яе з іншымі накірункамі эканамічнага і сацыяльнага развіцця рэспублікі на наступны год і шукаем рэсурсы, якія канкрэтна пойдуць на падтрымку прадпрымальніцтва.

**— Вы схільныя разглядаць міністэрства як штаб прадпрымальніцтва ў рэспубліцы?**

— Хутчэй штаб — гэта той пастаянна дзеючы грамадскі Савет па справах прадпрымальніцтва, які мы стварылі пры міністэрстве. У самога ж міністэрства функцыі крыху шырэйшыя. Не трэба забываць, што ў нашым падпарадкаванні і інвестыцыйная палітыка ў недзяржаўнай сферы эканомікі, і, па-ранейшаму, пытанні захавання антыманапольнага заканадаўства, і абарона правоў спажыўца (а праблема апошнім часам стаць вельмі востра, і работы тут — непачаты край), праблемы цывілізаванай рэкламы.

**— З дапамогай міністэрства дзяржава будзе праводзіць сваю палітыку ў малым, сярэднім і буйным бізнесе. Але, відаць, з такім жа правам можна сказаць, што з вашай дапамогай новы клас, які фарміруецца, зможа растлумачыць дзяржаве і грамадству, чаго ён хоча.**

— Я гаварыў бы пакуль не аб новым класе, а аб новым сектары эканомікі. Так, такая зваротная сувязь маецца на ўвазе. Без яе ні адна сістэма рэгулявання не працуе. А рэгуляванне — гэта калі ўлічваюцца інтарэсы адных (дзяржавы) і запатрабаванні другіх (прадпрымальнікаў).

Механізм ажыццяўлення зваротнай сувязі можа быць розным. Той жа грамадскі Савет пры міністэрстве, закліканы адсочваць і аналізаваць макратэндэнцыі, — адзін з важных элементаў такога механізма, і далёка не адзіны. Я лічу, што цяпер усё большую ролю будуць адыгрываць галіновыя Саюзы, асацыяцыі прадпрымальнікаў. Сур'ёзныя надзеі ўскладаем і на сродкі масавай інфармацыі, якія, акрамя ўсяго іншага, могуць пасадзейнічаць стварэнню новага, станоўчага іміджа беларускага бізнесмена.

**Гутарыў Уладзімір ХІЛЬКЕВІЧ.**

*ПОГЛЯД*

# «БЕЛАВЕЖСКІ ЗУБР» РАСПАВЯДАЕ ІТАЛЬЯНЦАМ

**Сёння па зразумелых прычынах цікаўнасць да падзей 5-гадовай даўнасці ў Віскулях рэзка ўзрастала. Не змяншаецца вастрыня спрэчак і дэбатаў наконт таго, што ўсё ж такі адбылося ў снежні 1991 года ў Белавежскай пушчы: завяршэнне натуральнага распаду апошняй велізарнай імперыі пад назвай СССР, які ўжо нельга было спыніць, ці гэта было загадзя спланаванае на Захадзе знішчэнне вялікай краіны рукамі несумленных лідэраў асобных савецкіх рэспублік? Ім і цяпер ставіцца ў віну ігнараванне вынікаў Усесаюзнага рэферэндуму, у ходзе якога большасць насельніцтва выказалася за існаванне абноўленага Савецкага Саюза.**

**У гэтай сітуацыі, на наш погляд, вельмі каштоўнымі для гісторыкаў і цікавымі для нашых чытачоў з'яўляюцца ўспаміны непасрэдных удзельнікаў тых падзей. Сёння Станіслаў Шушкевіч, адзін з тых «белавежскіх зуброў» дае інтэрв'ю сродкам масавай інфармацыі. У «Звязду» трапіў запіс адказаў Станіслава Шушкевіча на пытанні папулярнай італьянскай газеты «Ла Рэпубліка». Вось найбольш цікавыя вытрымкі.**

Станіслаў Шушкевіч распавядае, што пытання аб роспуску Савецкага Саюза для яго фактычна не існавала. Больш таго, калі ён сустрэўся ў Мінску з Барысам Ельцыным і Леанідам Краўчуком, гэта пытанне таксама не абмяркоўвалася. І потым, у Белавежскай пушчы ў час сур'ёзнай размовы аб становішчы ў краіне, усе трое палітыкаў былі згодныя з тым, што СССР — некіруемая велізарная ядзерная дзяржава, развал якой ужо фактычна адбыўся. І калі гэты працэс будзе працягвацца бескантрольна, то можа ўзнікнуць небяспека для ўсяго чалавецтва.

Таму ў першы вечар, успамінае Станіслаў Шушкевіч, яны толькі канцэптуальна выпрацавалі сутнасць будучага пагаднення і далі рабочай групе заданне працаваць ў вызначаным накірунку.

Нечаканасцю не было для яго і тое, што размова ў рэшце рэшт скіравалася на ліквідацыю СССР. «Маральна я быў гатовы», — гаворыць Шушкевіч.

Пасля заключэння вядомага Белавежскага пагаднення ўзнікла шмат здагадак, выдумак і спекуляцый наконт сапраўдных аўтараў гэтага дакумента. Паводле адной бытуючай версіі, імі былі Бурбуліс і Шахрай, у той час вельмі ўплывовыя і блізкія да Б. Ельцына дзеячы. Маўляў, у пушчу яны прыехалі з канкрэтным планам арганізацыйнага і дакументальнага афармлення роспуску СССР.

Станіслаў Шушкевіч назваў падобныя сцвярджэнні абсалютнай бязглуздзіцай. Шахрай, паводле яго слоў, у размовах аб канцэптуальным вырашэнні пытання не ўдзельнічаў. Што датычыць Бурбуліса, то, як здаецца Шушкевічу (хаця канчаткова ён не ўпэўнены), ён быў першым чалавекам, які дакладна сфармуляваў палажэнне аб тым, што СССР як геапалітычная рэальнасць спыняе сваё існаванне. Хутчэй за ўсё Бурбуліс (а ён тады займаў пасаду дзяржсакратара і быў фактычна чалавекам № 2 у Расіі) першым выказаў гэту фразу, якую потым усе падтрымалі.

Работа над пагадненнем ішла марудна. Тут вызначыўся Шахрай. На думку Шушкевіча, ён вельмі хутка і вельмі лагічна, у адпаведнасці з выпрацаванай канцэпцыяй, выдаваў неабходныя юрыдычныя фармулёўкі. Тым не менш, «шэрымі кардыналамі» ці закулісным творцамі пагаднення Шахрай і Бурбуліс, лічыць Шушкевіч, не былі.

Шушкевіч спачатку ўвогуле думаў, што вынікам сустрэчы стане своеасаблівы ультыматум Міхаілу Гарбачову ў выглядзе грунтоўнай заявы. Але Л. Краўчук сказаў, што дзеля гэтага не варта было б і збірацца. Трэба ісці далей.

І яны ішлі. Шушкевіч успамінае:

— Для мяне, як беларуса, патрыёта, у гэтай размове найбольш прывабным было тое, што Расія ўпершыню пасля таго, як яна захапіла, падпарадкавала сабе беларускія землі, а дакладней з 1772 года, упершыню прызнавала незалежнасць Беларусі. Тады я адчуваў гонар, хаця свае пачуцці не выдаваў. Я разумеў, што Ельцыну трэба было разабрацца з Гарбачовым, які не кіраваў краінай, а імкнуўся надаць новыя фармулёўкі старой імперыі. Ельцын быў прагрэсіўным чалавекам, і мне падабалася з ім працаваць.



"Беловежский" процесс. Рисунок Николая ГИРГЕЛЯ

Адным з ключавых момантаў тых дзён была тэлефонная размова з Гарбачовым. Раней Шушкевіч некалькі разоў гутарыў з Міхаілам Сяргеевічам па тэлефоне, здаралася, той сам званіў яму ў Мінск, чым вельмі здзіўляў і інтрыгаваў хатніх Станіслава Станіслававіча. Увогуле, у іх быў нармальны кантакт. Таму Ельцын і прапанаваў, а Краўчук падтрымаў ідэю, каб Шушкевіч праінфармаваў прэзідэнта СССР аб выніках сустрэчы. Ельцын узяў на сябе місію паведаміць аб ліквідацыі СССР прэзідэнту ЗША Бушу.

Хаця Шушкевіч стаў тэлефанаваць першым, тым не менш, яго не адразу па спецсувязі звязалі з Гарбачовым. Высвятлялі, хто турбуе, і г. д. Ельцын жа без прамаруджання пачаў размову з Вашынгтонам, а перакладаў Бушу Козыраў па паралельным тэлефоне.

Гарбачоў вельмі абурыўся навіной. Ён паставіў пытанне рубам: ці разумееце вы, што робіце, як успрыме развал СССР сусветная супольнасць, як адрэагуе прэзідэнт ЗША?

Калі Шушкевіч сказаў, што Буша ўжо паінфармаваў Ельцын, то ўзнікла нямая сцэна, як у гогалеўскім «Рэвізоры». Больш аргументаў у Гарбачова не знайшлося. Размова была вычарпана.

У народзе ходзяць розныя чуткі аб атмасферы і абстаноўцы, у якой тады праходзіў савет у Белавежскай пушчы. Нават ёсць анекдот: тры мужчыны сабраліся ў лесе, добра выпілі і распусцілі СССР. З гэтай нагоды Станіслаў Шушкевіч удакладняе, што дэлегацыі працавалі тады да глыбокай ночы. Партнёры паводзілі сябе вельмі прыстойна. Усе адмаўляліся ад перапынку на паляванне, і Шушкевічу з цяжкасцю ўдалося ўгаварыць Л. Краўчука і В. Фокіна, кіраўніка ўрада Украіны, трохі папаляваць. Фокіну пашанцавала — ён падстрэліў дзіка. А вось Краўчук застаўся без трафея. Тады і нарадзіўся жарт, што Леаніда Макаравіча падвяла яго залішняя меткасць стралка. Ён куляй перабіў вяроўку, якой дзік быў прывязаны да сасны.

Кажуць, шмат пілі тады. Шушкевіч гэта рашуча адмаўляе. Самае большае, што дазвалялі сабе ўдзельнікі сустрэчы, дык гэта выпіць ці прыгубіць чарку каньяку пасля ўдала знойдзенай фармулёўкі. Трэба было ўвесь час знаходзіцца ў форме. «Я сябе адчуваў як бы за рулём, — гаворыць Шушкевіч, — і не мог дазволіць сабе выпіць».

Шматлікія карыкатуры на тэму уяўных белавежскіх застолляў, якія з'явіліся потым, Шушкевіч называе здаровым гумарам і добрым асвятленнем тых падзей. Некаторыя з карыкатур ён захоўвае ў сябе дома. (Адзін з цудоўных на гэту тэму малюнкаў С. Шушкевіч перадаў з аўтографам «Звяздзе».)

Тады, ён падкрэслівае, нікога не было, як кажуць, «пад мухай». І ўсе размовы аб тым, што Б. Ельцын моцна выпіў, не маюць пад сабой ніякага грунту.

Напружанне, паводле слоў Шушкевіча, здымалі здаровым і цвярозым спосабам. Прэм'ер Вячаслаў Кебіч запрасіў у Віскулі групу энтузіястаў-масажыстаў, пасля працы якіх Станіслаў Станіслававіч адчуваў сябе быццам наноў народжаным.

Белавежская пушча, упэўнены Шушкевіч, стала дэ-юрэ канцом існавання расійскай імперыі на тэрыторыі былога СССР.

Напрыканцы інтэрв'ю ён даў ацэнку сённяшняй сітуацыі ў Беларусі. Яна, на жаль, трапіла ў сферу жаданага «прыхоплівання» з боку пераважнай большасці палітыкаў Расіі, якія па духу з'яўляюцца, паводле выказвання Станіслава Станіслававіча, «імперштчыкамі». Яны ўсе трохі жырыноўскія. Да кампаніі вялікіх імперштчыкаў ён адносіць і Віктара Чарнамырдзіна, які вышэй за ўсё ў Беларусі ставіць не яе нацыянальныя інтарэсы, а выгоды і перавагі мілага яго сэрцу «Газпрома». Шушкевіч лічыць, што Строеў мае ў нашай краіне камерцыйныя інтарэсы, а Селязнёў — ідэалагічныя.

Сёння Беларусь, на думку Шушкевіча, катэгарычна неправавая дзяржава. І шкада, што Расія падтрымала гэты падыход, што не набліжае яе да дэмакратыі, а ўтоптвае ў бруд парасткі дэмакратыі і нацыянальнай самасвядомасці ў Беларусі, перашкаджае будаваць у нас грамадзянскае грамадства.

**Падрыхтаваў Леанід ЛАХМАНЕНКА.**

## НА САММІЦЕ БЕЛАРУСЬ ВЫСТУПІЛА СУПРАЦЬ НОВАГА РАСКОЛУ Ў ЕЎРОПЕ

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)**

Ён з поўнай адказнасцю заявіў, што ў рэспубліцы няма палітычнага крызісу, няма і намёку на які-небудзь раскол у грамадстве, пра які гаворыць апазіцыя, звяртаючыся да міжнароднай грамадскасці. Ён заявіў, што свае праблемы Беларусь вырашае выключна мірнымі, палітычнымі сродкамі, так будзе і ў далейшым.

«Мы маем намер і далей паглыбляць супрацоўніцтва з АБСЕ і іншымі еўрапейскімі структурамі па ўсіх пытаннях, уключаючы пытанні дэмакратызацыі і рэфарміравання нашага грамадства, выканання нормаў і правіл АБСЕ ў галіне чалавечага вымярэння», — падкрэсліў Аляксандр Лукашэнка.

Ініцыятывы Беларусі па стварэнню стабільнасці на еўрапейскім кантыненце шырока абмяркоўваліся ў час сустрэч Прэзідэнта краіны з вядомымі палітычнымі і дзяржаўнымі дзеячамі. Дарэчы, ніякага дэмаршу беларускай дэлегацыі, як аб гэтым пасцяшаліся паведаміць некаторыя СМІ, не было. Выслухаўшы большую частку выступлення прэзідэнта Польшчы Аляксандра Квасьнеўскага, дэлегацыя вымушана была пакінуць залу, каб паспець на запланаваную сустрэчу з цяперашнім кіраўніком АБСЕ Флавіо Коці. Пры насычаным рэжыме работы самміта такія сустрэчы — звычайная з'ява. Дэлегацыі многіх краін таксама пастараліся максімальна выкарыстаць гэтыя два дні для двухбаковых кантактаў і праведзення перамоў.

Важнае значэнне для беларускага боку мела і трохбаковая сустрэча, у якой, акрамя Флавіо Коці, прынялі ўдзел былы і будучы старшыні АБСЕ. Галоўнай тэмай гутаркі стала ініцыятыва Прэзідэнта Беларусі аб стварэнні бяз'ядзернай зоны ў Цэнтральнай і Усходняй Еўропе.

У ходзе самміта адбыліся таксама сустрэчы Аляксандра Лукашэнкі з прэм'ер-міністрам Расіі Віктарам Чарнамырдзіным, прэзідэнтамі Турцыі, Літвы, Таджыкістана, іншымі вядомымі палітыкамі.

Паводле вынікаў лісабонскай сустрэчы кіраўнікі дзяржаў — удзельніц АБСЕ прынялі Палітычную дэкларацыю, дзе, у прыватнасці, станоўча ацэнена роля Беларусі па выкананню сваіх абавязацельстваў па вывадзу ядзерных ракет. Удзельнікі самміта прынялі таксама Дэкларацыю па мадэлі бяспекі для Еўропы XXI стагоддзя, накіраваную на ўмацаванне стабільнасці на кантыненце.

На прэс-канферэнцыі, якая адбылася 3 снежня ў Лісабоне, Аляксандр Лукашэнка выказаў задаволенасць вынікамі самміта, падкрэсліўшы, што ў ходзе сустрэчы дэлегацыя Рэспублікі Беларусь змагла данесці да еўрапейскага супольніцтва сваю пазіцыю па важнейшых пытаннях міжнароднага характару, у тым ліку наконт расшырэння НАТО на Усход. Праведзеная дыскусія, лічыць Прэзідэнт, вельмі важная для ўстанаўлення міру і стабільнасці ў Еўропе, прадухілення міжрэгіянальных канфліктаў.

**Ларыса ЛАЗАР, БЕЛТА.**

*КАНФЛІКТЫ*



# ЮСТЫЦЫЯ — ГЭТА ЗНАЧЫЦЬ СПРАВЯДЛІВАСЦЬ...

**АПОШНІМ ЧАСАМ у мяне склалася цвёрдае перакананне, што без работы я ніколі не застануся. Дакладней, застацца магу — не застануся без тэм. Не трэба іх шукаць, яны самі мяне шукаюць. Неабходна толькі адэкватна адлюстраваць іх на паперы.**

**У сярэдзіне снежня пленум Вярхоўнага суда будзе разглядаць справу Віктара Буто (гл. «Звязду» ад 26 лістапада г.г.). На ім жа суддзі абмяркуюць пратэст Генеральнага пракурора па справе Уладзіміра Адынца. Дарэчы, Адынец і Буто пазнаёміліся ў працэсе пошуку справядлівасці ў адных і тых кабінетах. Ды і справы іх падобныя як дзве кроплі вады: абодвух звольнілі па надуманых падставах, абодва былі лідэрамі Свабоднага прафсаюза на сваіх прадпрыемствах, абодва, як апошні козыр, маюць пратэсты Генеральнага пленума пракурора. Нарэшце, абодва, у выпадку адмоўнага рашэння Вярхоўнага суда, збіраюцца звяртацца ў міжнародныя прававыя арганізацыі...**

### ХОЧАШ БЫЦЬ СВАБОДНЫМ — ЗВАЛЬНЯЙСЯ

1 лютага Уладзімір Адынец адзначыць трохгадовы юбілей свайго звальнення. «... Сцвярджэнне, што «можна смела звяртацца ў Кнігу рэкордаў Гінеса, канкурэнтаў у яго мала», — не адпавядае рэчаіснасці», — папраўляе мяне Уладзімір Ігнатавіч у пісьме на імя галоўнага рэдактара. Ён піша пра Віктара Буто. Справу таго разглядалі 12 разоў, а Адынца — 15. Удакладненне прымаецца: Адынец пакуль аднаасобны лідэр неафіцыяльнага спаборніцтва. 15 супраць 12. Хто больш?

У Рэчыцкім упраўленні тэхналагічнага транспарту Уладзімір Адынец працаваў з 1981 года. Ён так званы вахтавік. Працаваў у Заходняй Сібіры на нафтапромыслах: 15 дзён там, 15 — дома. Класны вадзіцель, мае ўсе катэгорыі, скончыў політэхнічны інстытут — па спецыяльнасці інжынер па эксплуатацыі аўтатранспарту. Вадзіцелем стаў таму, што большы заробак.

Да скасавання дзяржавы СССР асаблівых праблем не было: рублі былі аднолькавыя ўсюды. Потым Беларусь абвясціла незалежнасць і ўвяла сваю грашовую адзінку. Так завязалася гэтая гісторыя.

Вахтавікі працавалі ў Расіі, але дома атрымлівалі ў «зайцах». Пакуль курс быў 1:1, ніхто нічога супраць не меў. Потым курс захістаўся, але вахтавікам па-ранейшаму выплачвалі зарплату па курсу 1:1. Розніца некуды знікала, хтосьці «грэў» на гэтым рукі. Выпадак распаўсюджаны ў той час. Але мужыкі захвалявалiся: чаму мы павінны карміць «канторскіх пацукоў»?

Для адказу на гэтае пытанне вахтавікі вырашылі стварыць свой прафсаюз, бо галіноваму яны не давяралі. Тым больш, што Закон «Аб прафсаюзах» такую магчымасць даваў. Паколькі Уладзімір Адынец меў аўтарытэт, адукацыю, кіраўніком прафсаюза абралі менавіта яго.

Аднаасова ў Свабодны прафсаюз уступіла 120 чалавек пры агульнай колькасці працуючых у РУТТ каля 1000, што тлумачыцца вахтавым характарам работы: адны прыехалі, другія паехалі. І адразу ж узніклі праблемы з адміністрацыяй. Яна, напрыклад, паставіла пад сумненне ўвогуле законнасць прафсаюза на той падставе, што вахтавікі працуюць у другой дзяржаве і на стварэнне прафсаюза павінны прасіць згоды ў кіраўніка адміністрацыі той дзяржавы. Іншымі словамі, у пана Ельцына Б.М. ...

На самых членаў прафсаюза быў арганізаваны ціск. Нават прыязджалі дадому, пужалі звальненнем. Ці так: перад вылетам на вахту падыходзілі да рабочых, ставілі перад выбарам: «Вось стаіць самалёт. Хочаш ляцець — пішы заяву аб выхадзе з прафсаюза..» Метады не новыя, але правераныя. 50 чалавек заявы напісалі.

Тым часам прадпрыемства, у якое ўваходзіла РУТТ, ліквідавалі, вахтавікоў перавялі ў Беларускае ўпраўленне буравых работ, далей — падпарадкавалі расійскай арганізацыі. «Канцы» схаваны надзейна.

А Уладзіміра Адынца 1 лютага 1994 года звольнілі па скарачэнню штатаў...

### ПРАЦЭСЫ, КАБІНЕТЫ, ПРАЦЭСЫ...

Абарону інтарэсаў Адынца ўзяў на сябе Свабодны прафсаюз Беларусі (СПБ). Сам бы Уладзімір Ігнатавіч не пацягнуў. Сума іску (кампенсацыя за вымушаны прагул) складала спачатку 38, на апошнім судовым працэсе— 100 мільёнаў рублёў. Паколькі дзяржпошліна бярэцца ў памеры 10 працэнтаў ад сумы іску, то Адынцу прыйшлося б заплаціць недзе 60 мільёнаў за чатыры працэсы. Нерэальна.

Справа Адынца двойчы разглядалася Рэчыцкім гарадскім, двойчы — Гомельскім абласным судамі. Апрача таго, Гомельскі аблсуд чатыры разы вёў разгляд у касацыйным і наглядным парадку. Апрача таго, Вярхоўны суд РБ займаўся справай 7 (сем) разоў у тым жа касацыйным і наглядным парадку. Апрача таго, Генеральная пракуратура ў інтарэсах Адынца вынесла пяць пратэстаў. Апошні вынесены самім сп. Капітанам на Пленуме Вярхоўнага суда. «Калі я, — заяўляе Уладзімір Ігнатавіч — з'яўляюся адным з бакоў у судовым працэсе і магу быць суб'ектыўным, то Генеральнага пракурора ў гэтым западозрыць цяжка, а калі ўлічыць адносіны ўладаў да незалежнага прафсаюзнага руху —проста немагчыма». Брава, Уладзімір Ігнатавіч. Дакладна ў «яблычак».

Аднак трэба пераходзіць да аналізу аргументаў абодвух бакоў.

Знаёмства з апошняй пастановай судовай калегіі па грамадзянскіх справах Вярхоўнага суда (ад 22.08.96) і пратэстам Генеральнага пракурора (ад 31.10.96) пакідае дваістае ўражанне. Сама меней здаецца, што бакі размаўляюць на розных мовах і трактуюць адны і тыя ж законы па-свойму. Занадта многа супярэчнасцей.

Напрыклад. Судовая калегія: «Згодна з пісьмом Беларускага ўпраўлення буравых работ па бурэнню свідравін у Заходняй Сібіры ад 1 студзеня 1994 года, у ліку іншай тэхнікі ўпраўленне адмовілася ад выкарыстання аўтамашыны, на якой працаваў Адынец У.І.».

Генеральны пракурор: «З групіровачных ведамасцей, даследаваных у судзе, паказанняў сведак бачна, што пасля звальнення Адынца У.І. аўтамабіль, на якім ён працаваў, працягваў эксплуатавацца. На ім працавалі вадзіцелі Квітко і Папоў, якія маюць кваліфікацыю вадзіцеля 3 класа, іншымі словамі, больш нізкую, чым ісцец».

Такім чынам, у Генеральнага ёсць дакументы і сведкі, а Вярхоўны суд пра гэта не ўпамінае.

Судовая калегія: «Паколькі вадзіцелі ўпраўлення працавалі на спецмашынах на розных радовішчах, то суд (Гомельскі абласны. —**С.Ш.**) прыйшоў да правільнай высновы, што вызначыць, хто з іх меў больш высокую кваліфікацыю і прадукцыйнасць, немагчыма».

Сп. Капітан мае свой пункт гледжання і на гэты эпізод: «Судовая калегія параўнала кваліфікацыю Адынца У.І. толькі з кваліфікацыяй 4 вадзіцеляў... што з'яўляецца няправільным. Калегія таксама прыйшла да высновы аб тым, што наяўнасць пэўнага класа не сведчыць аб кваліфікацыі вадзіцеля, а толькі ўплывае на ўзровень аплаты працы. Гэтую выснову правільнай прызнаць нельга, бо наяўнасць больш высокага класа сведчыць аб кваліфікацыі работніка, за што яму і робіцца даплата...» І далей: «... У ліку звольненых аказаліся вадзіцелі 1 класа, у тым ліку і ісцец, а засталіся працаваць вадзіцелі, якія маюць больш нізкую кваліфікацыю, у тым ліку вадзіцелі 3 класа».

Тут ёсць яшчэ адна смешная штучка. Абласны, а за ім і Вярхоўны суды чамусьці заняліся высвятленнем праблем прадукцыйнасці працы. Хаця вадзіцелі РУТТ працуюць і працавалі пагадзінна. Нагадаю: прадукцыйнасць працы — гэта колькасць выробленай за адзінку часу прадукцыі, і вымярацца ў гадзінах яна ніяк не можа. Гэта ўсё роўна што сказаць: я зрабіў за змену 10 гадзін дэталяў. Сумніўна, каб суддзі (з вышэйшай адукацыяй) не ведалі такой «тонкай» акалічнасці, якая вядома любому першакурсніку. У процілеглым выпадку трэба гаварыць аб некаторай, мякка кажучы, заангажыраванасці...

Аднак працягнем. Судовая калегія: «Суд прыйшоў да правільнай высновы, што згоды Савета СПБ на звальненне Адынца У.І. не патрабавалася, бо пярвічная арганізацыя СПБ не была створана, а яе старшыня не быў абраны ў адпаведнасці са Статутам Свабоднага прафсаюза Беларусі, Беларускага прафесіянальнага саюза работнікаў нафтавай прамысловасці, Закона Рэспублікі Беларусь «Аб прафесіянальных саюзах». Гучыць грозна, але няма ніводнай спасылкі на канкрэтныя артыкулы законаў.

У Генеральнага пракурора наконт гэтага таксама сваё меркаванне: «З матэрыялаў справы бачна, што на ўстаноўчым сходзе работнікаў-вахтавікоў РУТТ створана пярвічная арганізацыя Свабоднага прафсаюза і яго старшынёй абраны Адынец У.І. 17.11.93 гэты прафсаюз зарэгістраваны Саветам Свабоднага прафсаюза Беларусі. Указанае рашэнне нікім не адменена. Выснова суда аб тым, што адміністрацыя РУТТ даведалася аб стварэнні пярвічнай арганізацыі Свабоднага прафсаюза вахтавікоў 31 сакавіка 1994 года, з'яўляецца беспадстаўнай. У справе ёсць паведамленне ад 10.11.93 на імя начальніка РУТТ аб стварэнні пярвічнай арганізацыі Свабоднага прафсаюза вахтавікоў, дзве заявы на імя начальніка РУТТ аб парушэнні адміністрацыяй КЗаП і Закона Рэспублікі Беларусь «Аб прафесіянальных саюзах», ёсць некалькі патрабаванняў, адрасаваных галоўнаму бухгалтару РУТТ аб пералічэнні членскіх узносаў на рахунак Свабоднага прафсаюза». Таксама ў «яблычак».

Аднак тут знаходзім яшчэ адзін камічны момант. На адным з судовых пасяджэнняў спадарыня Зязюля, галоўны бухгалтар РУТТ, заявіла, што «ніякіх патрабаванняў не атрымлівала, аб Свабодным прафсаюзе не чула, а членскія ўзносы пералічыла ў галіновы прафсаюз». Камізм сітуацыі заключаецца ў тым, што законны муж сп. Зязюлі таксама з'яўляўся членам Свабоднага прафсаюза, аб чым жонка проста не магла не ведаць. Што, пад смех прысутных, Уладзімір Адынец і патлумачыў паважанаму суду.

Ну і, пэўна, хопіць. Сутнасць справы ад далейшага пералічэння супярэчлівых эпізодаў не зменіцца. Але што кідаецца ў вочы? Аргументаванасць пазіцыі Генеральнага пракурора і не вельмі зразумелая пазіцыя судовай калегіі Вярхоўнага суда.

### ХОЧАШ БЫЦЬ СВАБОДНЫМ — БУДЗЬ ІМ

Падчас падарожжаў Уладзіміра Ігнатавіча па інстанцыях яму расказалі гісторыю нейкай Паляковай, якую аднавілі на рабоце праз 11 гадоў. Маўляў, час у цябе яшчэ ёсць, хадзі, дарагі, хадзі. Але Адынца такая перспектыва чамусьці не вабіць. Справядлівасць яму патрэбна ўжо сёння. З чым я не магу не пагадзіцца.

Раней Уладзімір з нашай судовай сістэмай блізка не сутыкаўся. Гэта яго першы вопыт. Трэба сказаць, ён Адынца ўразіў да глыбіні душы.

Ён, скажам, па-сапраўднаму быў ашаломлены метадамі, якія выкарыстоўвае суд. Ён лічыць: яны вартыя звычайных крымінальнікаў. Што ён мае на ўвазе? Перапісванне пратаколаў судовых пасяджэнняў. Пры гэтым мяняліся паказанні сведак, з матэрыялаў справы знікалі доказы, паказанні сведак у парадку судовага даручэння (гэта калі сведку дапытваюць не ў ходзе працэсу), скажаліся сутнасць і сэнс заяўленых хадайніцтваў. Адным словам, на мове юрыспрудэнцыі гэта ўсё называецца фальсіфікацыяй матэрыяльнай базы справы.

Набыты вопыт Уладзімір Ігнатавіч хутка засвоіў і прымяніў на практыцы. Ён запатрабаваў сваю справу для азнаямлення. Уважліва вывучыў і напісаў свае заўвагі (колькасцю 21). З якіх 11 (!) былі прыняты судом. Іншымі словамі, суд фактычна прызнаў, што справа была даследавана з грубымі парушэннямі. А ў некаторых момантах элементарна сфальсіфікавана.

Такім чынам, мне нават нічога не трэба даказваць. Кожнае сваё сцвярджэнне Уладзімір Адынец можа пацвердзіць. А за ім — і Генеральны пракурор. Нічога не скажаш, даволі брудную свінню падлажыў калегам з Вярхоўнага суда Гомельскі аблсуд. Цяпер паспрабуй адмыйся...

Уладзімір Ігнатавіч, самае цікавае, быў на прыёме ў міністэрстве юстыцыі. Ён пакінуў свае заявы, дзе доказна пералічыў сфальсіфікаваныя эпізоды. Прасіў правесці службовае расследаванне. У адказ — цішыня.

Але што будзе далей? Даю свой прагноз: нічога. Справа нават не ў карпаратыўнай маралі, якая традыцыйна моцная ў асяроддзі судовых работнікаў. Проста часы не тыя. Хоць я быў бы рады памыліцца.

Тым не менш, аўтар застаецца перакананым у справядлівасці выразу: хочаш быць свабодным — будзь ім. Даказвай сваю праўду, колькі б на гэта ні спатрэбілася часу і чаго б ні каштавала. У гэтай гульні стаўкі занадта высокія.

Хоць, вядома, зараз больш актуальна гучыць іншае — нельга паставіць на калені людзей, якія прывыклі поўзаць...

**Сяргей ШАЎЦОЎ.**

### У МАСКВЕ ПАМЁР АПОШНІ КАМУНІСТЫЧНЫ ПРЭЗІДЭНТ АФГАНІСТАНА

Бабрак Кармаль прыйшоў да ўлады ў 1979 годзе пасля Красавіцкай рэвалюцыі і кіраваў краінай 7 гадоў. Гэта пры ім у Афганістан былі ўведзены савецкія войскі. У Маскву былы прэзідэнт Афганістана пераехаў прыкладна год таму, дзе, па сведчанню землякоў, меў уласную кватэру і дачу. Расійскія СМІ пакінулі факт смерці Кармаля па-за ўвагай, таму дакладная прычына яго смерці не была дастаткова вядома.

Цела Кармаля даставіў на радзіму яго сын. Дарэчы апошні зараз жыве ў Мінску, дзе раней вучыўся ў адной ВНУ горада. Пра смерць Бабрака Кармаля ў панядзелак паведаміла Бі-бі-сі, прычым назваўшы дату 2 снежня, а не 29 лістапада. Бі-бі-сі таксама прывяла такі факт: Бабрак Кармаль стаў адзіным з чатырох паслярэвалюцыйных прэзідэнтаў-камуністаў, хто памёр сваёй смерцю. Тры астатнія былі ў розны час забіты. Апошні з іх — Наджыбула — быў павешаны падчас нядаўняга захопу байцамі радыкальнага апазіцыйнага руху «Талібан» сталіцы Афганістана.

**Сяргей ПРОТАС.**

*МЕРКАВАННЕ*

## КАМІТЭТ ДЭМАКРАТЫЧНЫХ СІЛ ЗБІРАЕ СІЛЫ

**Пазаўчора ў Доме літаратара адбылося пасяджэнне Камітэта абароны дэмакратыі, які быў нядаўна заснаваны на базе розных партый і рухаў, а таксама той часткі Вярхоўнага Савета 13-га склікання, што засталася на ранейшых пазіцыях адстойвання першапачатковага зместу Канстытуцыі 1994 года.**

З інфармацыяй аб эканамічным становішчы рэспублікі на пасяджэнні выступіў старшыня камісіі ВС 13-га склікання Васіль Шлындзікаў. Па яго словах, гэта становішча — сумнае, у суб'ектаў гаспадарання забіраюцца апошнія сродкі, больш аднаго мільярдаў долараў складае знешнегандлёвы дэфіцыт, рэзка знізіліся, да 24 мільёнаў долараў на сярэдзіну года, валютныя рэзервы Нацыянальнага банка; скрытае беспрацоўе дасягае 30 працэнтаў, амаль да 60 долараў апусцілася сярэднямесячная зарплата. Пры гэтым Васіль Шлындзікаў назваў наіўнымі сцвярджэнні аб падзенні выканаўчай дысцыпліны, а таксама аб тым, што дзяржаўнае прадпрыемства можа працаваць не горш, чым прыватнае. У рэспубліцы, па словах В. Шлындзікава, прынята найгоршая эканамічная праграма, кантралюемыя дзяржавай цэны, іншыя меры рэгулюючага характару ўжо прыводзяць да спусташэння магазінных паліц, рэспубліцы складана выжыць без замежных інвестыцый, якія да нас не хочуць ісці. Што могуць зрабіць дэмакратычныя сілы, пытаўся В. Шлындзікаў. Мала, бо яны не могуць уплываць на ўладу.

Віктар Ганчар і старшыня рэспубліканскай грамадскай камісіі па кантролю за правядзеннем рэферэндуму Уладзімір Анцулевіч гаварылі аб парушэннях заканадаўства падчас падрыхтоўкі рэферэндуму і галасавання на ім. Міхаіл Пастухоў паведаміў аб сваёй адстаўцы як члена Канстытуцыйнага суда (разам з ім папрасіліся ў адстаўку яшчэ двое суддзяў і старшыня Канстытуцыйнага суда Валерый Ціхіня). Ён таксама нагадаў, што напярэдадні рэферэндуму было прынята рашэнне аб кансультатыўнасці вынікаў плебісцыту па Канстытуцыі, звярнуў увагу на тое, што ВС 13-га склікання можа цалкам спыніць свае паўнамоцтвы толькі тады, калі за гэта выкажуцца дзве трэці яго саставу...

На пасяджэнні выступіў са словамі падтрымкі дэмакратычных сіл рэспублікі вядомы расійскі бізнесмен Канстанцін Баравы.

**Іван БАРАНОЎСКІ.**

## «ГРЫПОЗНЫЯ» ПРАГНОЗЫ НЕ ПАЦВЕРДЗІЛІСЯ

Прагнозы Сусветнай арганізацыі аховы здароўя і Цэнтра па захворванню на грып у Атланце аб нашэсці з Усходу вірусаў грыпу, якія могуць выклікаць пандэмію (планетарную эпідэмію), на шчасце, не пацвердзіліся. Але Віцебшчыну прывычны для гэтай пары года вірус А ўсё ж не абмінуў. Паводле прагнозаў Рэспубліканскага цэнтра гігіены і эпідэміялогіі, чакаецца зімняя эпідэмія грыпу сератыпу H1N1. Таму беларусам самы час успомніць пра адпаведныя прафілактычныя меры, у тым ліку і пра вядомыя народныя сродкі.

**Вольга СІДАРОВІЧ, БЕЛТА.**

### СЁННЯ

**СОНЦА**

| | Усход | Захад | Даўжыня дня |
|---|---|---|---|
| Мінск – | 8.12 | 15.50 | 7.38 |
| Віцебск – | 8.09 | 15.33 | 7.24 |
| Магілёў – | 8.01 | 15.39 | 7.38 |
| Гомель – | 7.50 | 15.44 | 7.54 |
| Гродна – | 8.25 | 16.07 | 7.42 |
| Брэст – | 8.18 | 16.15 | 7.57 |

**МЕСЯЦ**

Апошняя квадра, 3 снежня

**ІМЯНІНЫ**

Пр. Мікалая, Эмільяна.
К. Грыгорыя, Аляксандра Мітрафана.

**НАДВОР'Е**

Сёння ўдзень па рэспубліцы захаваецца воблачнае з праясненнямі надвор'е, па паўднёваму ўсходу невялікія ападкі, слабы галалёд, месцамі туман. Тэмпература паветра ў Гродне і Віцебску — 0—2, Мінску і Брэсце — 1—3, Гомелі і Магілёве — 2—4 градусы цяпла.

У наступныя двое сутак пераважна без ападкаў, месцамі туман, слабы галалёд. Тэмпература ўначы — 1—6 градусаў марозу, удзень — каля нуля.

## ЯШЧЭ АДНА АХВЯРА Ў МІНСКІМ МЕТРО

На станцыі метро «Парк Чэлюскінцаў» 4 снежня каля 14 гадзін электрапоезд, які падышоў, прыціснуў галаўным вагонам да канструкцыі платформы 18-гадовага хлопца. Выкліканым на месца здарэння выратавальнікам прыйшлося прыкласці нямала намаганняў, каб вызваліць пацярпеўшага. Але ўжо было позна, малады чалавек загінуў.

У сувязі з гэтым сумным выпадкам на 50 хвілін быў спынены рух электрапаяздоў у метрапалітэне. Ці гэта быў няшчасны выпадак, злачынства, ці спроба самагубства — установяць следчыя органы.

**Таццяна СМІРНОВА, БЕЛТА.**

*ПЕЛЕНГ-НАВІНЫ*

### ЧАЧЭНЦЫ АДЧУВАЮЦЬ СЯБЕ ПЕРАМОЖЦАМІ

Сакратар Савета Бяспекі Расіі Іван Рыбкін прыбыў у Чачню, каб абмеркаваць дэталі ажыццяўлення ўказа аб вывадзе расійскіх войскаў з рэспублікі. Нядаўна з'явіліся паведамленні аб тым, што мясцовыя жыхары прыніжаюць расійскіх салдат, якія пакідаюць Чачню, і нават нападаюць на іх. Па словах назіральнікаў, інцыдэнты, якія адбыліся на гэтым тыдні, могуць распаліць гнеў камуністычнай апазіцыі ў Маскве, якая выступае супраць указа Ельцына аб вывадзе ўсіх войскаў з Чачні.

### УКРАІНСКІЯ ДЭПУТАТЫ «АДЗНАЧЫЛІ» ДЗЕНЬ СТАЛІНСКАЙ КАНСТЫТУЦЫІ

У Кіеве ўчора была нечакана перапынена сесія парламента, калі дэпутат-камуніст зрабіў спробу адзначыць Дзень Канстытуцыі былой савецкай рэспублікі. Згодна з паведамленнем агенцтва Інтэрфакс, дэпутат Уладзімір Майсеенка перапыніў дэбаты па падаткаабкладанню і нагадаў усім, што «сёння дзень, калі Сталін зацвердзіў Канстытуцыю Украінскай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі». У адказ адзін з дэпутатаў выхапіў у Майсеенкі чырвоны сцяг, а другі разарваў яго на кавалкі. Старшыня парламента перапыніў сесію і аб'явіў перапынак.

### НАТО НЕ БАЧЫЦЬ НЕАБХОДНАСЦІ Ў РАЗМЯШЧЭННІ ЯДЗЕРНАЙ ЗБРОІ ВА УСХОДНЯЙ ЕЎРОПЕ

Пра гэта заявіў міністр абароны ЗША Уільям Пэры. Гэту заяву ён зрабіў журналістам пасля замежнай паездкі, у ходзе якой ён наведаў Боснію і Герцагавіну, Саудаўскую Аравію і Японію. «НАТО можа і павінна зрабіць канкрэтную заяву. У нас няма планаў пашыраць размяшчэнне ядзернай зброі НАТО, і ў гэтым няма неабходнасці», — заявіў кіраўнік амерыканскага ваеннага ведамства. Апасенні Масквы на гэты конт ён назваў беспадстаўнымі. «Мы можам і павінны зрабіць усё неабходнае, каб пераканаць у гэтым рускіх», — дадаў Уільям Пэры.

### ХЭПІ БЁЗДЭЙ, КАРОЛЬ!

Тайланд адзначае сёння нацыянальнае свята — дзень нараджэння караля Туміпона Адульядэта, якому споўнілася 69 гадоў. У сваёй троннай прамове паўвека таму ён заявіў, што будзе правіць на карысць і шчасце народа. Сёння Тайланд уваходзіць у катэгорыю «драконаў» — найбольш развітых краін Паўднёва-Усходняй Азіі. Гэта буйнейшы экспарцёр рысу ў свеце (5 мільёнаў тон у год).

**Паводле паведамленняў радыё «Свабода», «Голас Амерыкі», «Радыё Расіі» і «Радыё-РОКС».**

